**Андрэй Кротаў**
(Гомель)

# Беларуска-польскі міжнацыянальны канфлікт 1918-1920 гг. як фактар развіцця негатыўнага кампанента беларускага стэрэатыпа Польшчы і палякаў

Сёння мусіць нельга знайсці штосьці новае, важнае, арыгінальнае, што магло б істотна змяніць існуючыя ўяўленні аб польска-савецкай вайне 1919-1920 гг. Аднак гэта ніякім чынам не ўплывае на актуальнасць самой тэмы, на рэйтынг яе папулярнасці не толькі ў колах прафесійных даследчыкаў, але і ў абывацельскім асяроддзі. Адказаў на гэта пытанне даволі шмат. І сярод іх ёсць зусім відавочныя, звязаныя з дзяржаўнымі і нацыянальнымі амбіцыямі рускіх і палякаў, іх уяўленнямі аб гістарычнай справядлівасці і г.д. Але ў значнай ступені гэта актуальнасць абумоўлена тымі абставінамі, што ў дадзеную вайну аказаліся ўцягнутымі і тыя, хто не меў ніякага дачынення да вялікадзяржаўных амбіцый Польшчы і Расіі, тыя, хто меў сваё разуменне палітычнай сітуацыі, свае спадзяванні і імкненні, якія, як аказалася, зусім не цікалі ні палякаў, ні рускіх — беларусы. Агульнымі намаганнямі Польшча і савецкая Расія, заключыўшы паміж сабою Рыжскі мірны дагавор, перарвалі распачаты ўжо працэс складвання беларускай нацыянальнай дзяржавы, нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа і тым самым затрымалі, замарудзілі працэс яго гістарычнага развіцця.

Між тым, нягледзячы на аднанакіраванасць польска-расійскіх намаганняў у адносінах да Беларусі, відавочна, што Польшча прыклала іх шмат больш, чым Расія. І, галоўнае, пачала прыкладаць гэтыя намаганні значна раней — адразу ж пасля развалу Расійскай імперыі, калі, атрымаўшы дзяржаўную незалежнасць, стала на шлях аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Расія ж падключылася да гэтага працэсу крыху пазней...

Менавіта ў 1918 г. пачынаецца барацьба палякаў за беларускія землі, менавіта ў той час цягнуцца карані беларуска-польскага міжнацыянальнага канфлікту, які загас толькі пасля гібелі ІІ Рэчы Паспалітай у верасні 1939 г. І хаця тэма гэтага канфлікту дагэтуль не выклікала да сябе ўвагі, наогул выпадаючы з поля спецыяльнага інтарэсу даследчыкаў і знікаючы ў куды больш шырокай і важнай для іх тэме польска-савецкай вайны, гэта не пазбаўляе яе навуковай значнасці, прынамсі для беларускай гістарыяграфіі, а таксама значнасці грамадска-палітычнай. Нельга бясконца рабіць выгляд, што ў беларуска-польскім мінулым, і, першым чынам,

агульным мінулым на беларускай зямлі, не было таго, што псавала адносіны паміж беларусамі і палякамі, перашкаджала ім жыць у ладзе і згодзе, пакідаючы цёмныя сляды ў гістарычнай памяці і ў менталітэце. Шчырая размова аб тым, хто ў распачатай у 1918 г. барацьбе адстойваў сваё, а хто квапіўся на чужое, патрэбна хаця б дзеля таго, каб былыя крыўды не перашкаджалі суіснаваць і супрацоўнічаць у нашыя дні, каб страхі і крыўды мінулых часоў не пераходзілі ў будучае і не атручвалі яго.

Пасля развалу Расійскай імперыі ўпершыню за ўсю гісторыю беларуска-польскіх адносін беларускі народ выступіў як самастойны ўдзельнік гістарычнага працэсу. У яго асобе палякі сутыкнуліся не з „этнаграфічнай масай", падлеглай асіміляцыі, не з „тутэйшымі", аб якіх з заступніцкім замілаваннем пісалі польскія аўтары, адлюстроўваючы пастаральныя карціны быцця на беларуска-літоўскіх крэсах, а з маладой, няхай яшчэ і не зусім сфарміраванай еўрапейскай нацыяй, якая вуснамі лепшых сваіх сыноў заяўляла аб цвёрдым намеры стварыць уласную незалежную дзяржаву і заняць годнае месца ў пасляваеннай Еўропе.

У той жа час, дзеля справядлівасці варта адзначыць, што беларусы ў большасці сваёй яшчэ былі далёкія ад рашэння (і нават разумення) тых задач, якія ставіла перад імі гісторыя. Мары аб незалежнай беларускай дзяржаве былі марамі невялікай групы беларускіх палітыкаў і дзеячаў культуры, нацыянальнай эліты, якая толькі зараджалася, і, магчыма, апынулася б здольнай прыўнесці ў жыццё беларускага народа абнаўленскія тэндэнцыі, калі б не збег неспрыяльных вонкавых фактараў.

Відавочна, што і пасля абвяшчэння 9 сакавіка 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі пераважная большасць беларусаў знаходзілася па-за актыўнай барацьбой за незалежную Беларусь. Гэта, у канчатковым рахунку, шмат у чым і абумовіла палітычнае паражэнне БНР. Але расійскія бальшавікі, зразумеўшы, што ідэя стварэння беларускай дзяржавы, аднойчы з'явіўшыся на свет, не будзе забытая, вырашылі ўзяць ініцыятыву ва ўласныя рукі, і паспрабавалі падпарадкаваць яе сваім інтэрасам. ЦК РКП (б) прыняў рашэнне аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а 1 студзеня 1919 г. яна была абвешчана афіцыйна. Факт яе абвяшчэння з'яўляўся тактычным манеўрам расійскіх бальшавікоў — прыхільнікаў унітарнай камуністычнай дзяржавы. Чарговым такім манеўрам, прадпрынятым у лютым 1919 г., ужо падчас польска-савецкай вайны, стала абвяшчэнне Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Нельга не адзначыць, што, у адрозненне ад савецкай Расіі, якая ўсё ж такі распачала гульню ў будаўніцтва беларускай дзяржавы[1], Польш-

[1] Р. Лазько, *Польска-савецкія перамовы і лёс БССР*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2011, t. 35, s. 32-55.

ча ад якіх-небудзь праектаў, спрыяльных матэрыялізацыі ідэі стварэння беларускай нацыянальнай дзяржавы ў канчатковым рахунку адмовілася наогул. Далучэння да Польшчы беларускіх (і ўкраінскіх) зямель сталі дамагацца ўсё яе палітычныя сілы без выключэння і абгрунтоўвалі яго „гістарычным правам". Гэта „права", у сваю чаргу, палякі тлумачылі наступнымі аргументамі: культурным капіталам, які ўкладваўся сюды на працягу стагоддзяў; прысутнасцю польскага элемента, ад якога нельга было адрачыся; тым, што Польшча праліла за Беларусь шмат крыві і, нарэшце, — зацікаўленасцю Касцёла[2]. Праўда, паміж Юзафам Пілсудскім і эндэцыяй існавалі супярэчнасці аб характары ўключэння гэтых зямель у склад Польскай дзяржавы. Эндэцыя на чале з Раманам Дмоўскім у аснову азначэння граніц ставіла гістарычны прынцып (узнаўленне з частковымі зменамі граніц 1772 г.) і імкнулася да прамой інкарпарацыі гэтых зямель[3]. Пілсудскі быў настроены менш цвёрда. Ён прапаноўваў планы стварэння ва Усходняй Еўропе шырокай федэрацыі дзяржаў пад гегемоніяй Польшчы. У першым — так званым „вялікім" плане — прадугледжваўся антыбальшавіцкі саюз усіх нацыянальнасцей былой царскай імперыі, з перспектывай вольнага самавызначэння кожнай з іх па заканчэнні вайны. У іншым — так званым „малым" плане — прадугледжваўся падзел спрэчных тэрыторый паміж Польшчай і Расіяй на аснове плебісцыту, праведзенага пад міжнародным кантролем. У „вялікім" плане Пілсудскі даваў беларусам шанс на самавызначэнне, незалежна ад скептыцызму, з якім ён ставіўся да іх дзяржаўных здольнасцей. У „малым" — лічыў мэтазгодным падтрымку беларусізму, аднак толькі на тэрыторыі Міншчыны, як сродка засцярогі супраць Расіі. Ён казаў: „У так званай Беларусі будзе або польскасць, або расійскасць. Усякая падтрымка беларусізму штучна яго стварае, аднак мы не зможам даць яму гэтым сілу. Таму, у мэтах перамогі над расійскімі ўплывамі, з ім трэба манеўраваць"[4]. Нейкі час Пілсудскі не аддаваў перавагі ні аднаму са сваіх планаў. А потым ён і зусім ад іх адмовіўся — у канцы 1920 г. у яго ўкаранілася перакананне, што беларускія палітыкі не ўяўляюць сур'ёзнага палітычнага партнёра і таму на іх можна наогул не звяртаць увагі[5].

Беларускія „незалежнікі", чые палітычныя амбіцыі моцна пацярпелі ад дзеянняў бальшавікоў, паспрабавалі паверыць у добрыя намеры

[2] А. Цвікевіч, *Адраджэнне Беларусі і Польшча*, Мінск — Вільня — Берлін 1921, с. 73-75.

[3] A. Srebrakowski, *Sejm Wileński 1922 roku. Idea i jej realizacja*, Wrocław 1993, s.13-14.

[4] A. Chojnowski, *Zasady białoruskiej polityki piłsudczyków*, [w:] *Polska myśl polityczna XIX i XX wieku*, red. W. Wrzesiński, t. VIII: *Polska — Polacy — mniejszości narodowe*, Wrocław — Warszawa — Kraków 1992, s. 276.

[5] Tamże, s. 277.

Польшчы, але вельмі хутка ў іх расчараваліся. Польскія палітыкі зрабілі ўсё для таго, каб ператварыць дзеячаў БНР у іх стаўленні да Польшчы ў рэалістаў. Не ў апошнюю чаргу на гэта паўплывалі і паводзіны палякаў на беларускіх землях.

Аналізуючы сітуацыю, у якой у масах беларускага насельніцтва стаў фарміравацца негатыўны вобраз паляка, нельга забываць, што палякі заўсёды лічылі Беларусь часткай Польшчы і таму дамаганні беларусаў на незалежнасць выклікалі ва ўсіх колах польскага грамадства насцярожанасць, якая, як паказаў час, хутка перарасла ў нацыянальную непрыязнасць. Яшчэ ў маі 1916 г. у польскім друку выказвалася наступнае меркаванне: „Ці будзе беларуская нацыя (...) з намі, палякамі, змагацца так, як змагаюцца ўкраінцы і літоўцы — не будзем варажыць. Мы маем (...) досыць часу, каб знайсці ў гэтым народзе ў стаўленні да сябе добразычлівасць праз культурнае з ім супрацоўніцтва. Рух гэты варта вывучаць сумленна і без прадузятасцяў”[6]. Але ўжо праз паўтара года газета „Nowa Reforma”, звяртаючыся да гэтай тэмы, канстатавала не без трывогі, што беларускі народ, які адраджаўся да новага жыцця, „упершыню заяўляе, што з’яўляецца (...) спадаром і гаспадаром той зямлі, якую палякі здаўна звалі Польшчай”[7]. У сярэдзіне студзеня 1918 г. газета „Godzina Polski” пісала аб Вільні і аб беларуска-літоўскіх крэсах: „Адрыньванне гэтага польскага ачага ад уваскрэшанай дзяржавы стала б ударам у самае сэрца народа. Менавіта так, а не інакш успрыняў бы гэта ўвесь польскі народ. Менавіта на гэтым адчуванні ў наступным будаваліся б яго палітычныя памкненні”[8].

Вельмі цяжка перажывалі цякучы палітычны момант прадстаўнікі так званай „крэсовай” польскасці — палякі, патрыятычныя пачуцці якіх былі звязаны з крэсамі ледзьве не ў большай ступені, чым з гістарычнай Польшчай. Але змрочныя перспектывы будучага крэсаў, рэальная пагроза страціць іх з усімі вынікаючымі з гэтага наступствамі, рабілі польскі крэсовы элемент вельмі неабыякавым у стаўленні да тых падзей, якія адбываліся, узмацнялі яго псіхалагічную сувязь з польскім народам, абуджалі польскі патрыятызм і вытворную ад яго непрыязнь да іншародцаў, павялічвалі яго палітычную актыўнасць.

Нават слабая падтрымка беларускага нацыянальнага руху вонкавай сілай — камандаваннем германскіх акупацыйных войскаў — вымушала палякаў выяўляць у стаўленне да яго сур’ёзную насцярожанасць і ба-

[6] *Sprawa białoruska*, „Wiedeński Kurier Polski”, 1916, 6 maja, Archiwum Akt Nowych (далей: AAN), plik 100, dział L.B.U. II. Ib, l.60/2.

[7] K. Bartoszewicz, *Polskość Białorusi*, „Nowa Reforma”, 1918, 24 grudnia, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. Ia, l.51.

[8] *Wilno. (Słowo w sprawie granic Polski)*, „Godzina Polski”, 1918, 16 stycznia, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. Ia, l.44.

чыць у ім патэнцыйную пагрозу справе ўзнаўлення польскага панавання на крэсах. Газета „Naprzód”, напрыклад, пісала: „Беларуская газета „Гоман”, якая выдаецца праз Ober-Ost (выходзіла з 15.02.1916 г. да канца 1918 г. у Вільні на беларускай мове з дазволу германскіх акупацыйных улад і прапагандавала „незалежніцкія” ідэі — *А. К.*) праводзіць вострую антыпольскую агітацыю. „Гоман” пераконвае чытачоў, што незалежная Польшча — дзяржава „панска-шляхецкая”, што Часовы ўрад з’яўляецца „панскім урадам”, а літоўскія палякі — гэта „прыблуды і ўсякага роду самазванцы”. Мясцовых (крэсовых — *А. К.*) палякаў „Гоман” характарызуе як ахопленых ашалелым нацыяналізмам, а ўсякія гутаркі аб аб’яднанні Літвы і Польшчы тлумачыць, як „ганьбу”, „бессаромнасць”, „здраду”[9].

Разлікі палякаў на тое, што беларускі народ — „цёмны, несвядомы, непісьменны, які не меў паняцця, што такое „нацыянальнасць”, „нацыянальная барацьба”, „нацыянальная свядомасць”, (...) які клапаціцца толькі аб тым, каб добра жыць, спажываць і таму не думае ні аб якой іншай справе”[10], застанецца і ў бягучы гістарычны момант, як гэта не раз было ў мінулым, у баку ад рашэння лёсу сваёй айчыны і сваёй уласнай долі, не апраўдаліся. Наколькі не супадалі пазіцыі бакоў, сведчыць завочная палеміка „Dziennika Poznańskiego” і „Гомана”. Так, напрыклад, „Dziennik Poznański” заявіў, маючы на ўвазе пасіўнасць і малую значнасць беларусаў ва ўладкаванні крэсаў, што „ў Беларусі маюцца ўмовы для жыцця, але дзякуючы іншым нацыянальнасцям, якія яе насяляюць”[11]. „Гоман”, у сваю чаргу, робіць наступны вывад: „Польскі народ ставіцца да нас не як „сястра” да „брата”, а як „воўк” да „авечкі”. І калі зараз Польшча, у значнай меры сіламі нашых людзей, здабыла свободу (...), то замест падзякі не толькі ні разу не паспрабавала нам дапамагчы, але, яшчэ нават не паспеўшы арганізавацца, як след, жадае прыбраць наш край пад сваё шляхецкае панаванне. Гэтым яна здрадзіла не толькі гэтаму краю, але і шумна апетаму польскаму дэмакратызму — „за нашу і вашу волю”. Не дзіўна, што наш дэмакратычны народ адвярнуўся ад такой „сястры”[12].

„Гоман” не імкнуўся выдаваць жаданае за рэчаіснае. Ён толькі канстатаваў тыя ашаламляльныя змены, якія адбыліся за 1918 г. у стаўленні беларусаў да Польшчы і палякаў, заявіў аб тым, што ўжо з’явілася эмацыйна-псіхалагічная аснова для негатыўнага і нават варожага ўспрымання імі палякаў і так званай „польскасці”.

[9] *Antypolska agitacja „Homana”*, wyjątek z gazety „Naprzód”, bez daty, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2a, l.439/2.

[10] *Białoruś, jej prądy i nadzieje*, „Dziennik Poznański”, 1918, 4 sierpnia, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 1c, l.382.

[11] *Białoruś, jej prądy i nadzieje*, l.382.

[12] *Antypolska agitacja „Homana”*, l.439/2.

Бачылі гэта і самі палякі. Газета „Głos Narodu", напрыклад, адзначала: „Стаўленне беларускага насельніцтва да польскіх гаспадароў нядобразычлівае, а дакладней — дрэннае. Пагоршылася яно яшчэ і па прычыне ўтварэння польскага корпуса на Беларусі і з прычыны жадання атрымаць кампенсацыі за спусташэнні, зробленыя ў польскіх маёнтках беларусамі"[13]. Газета мела на ўвазе 1-шы польскі корпус пад камандаваннем ген. Юзафа Доўбар-Мусніцкага, сфарміраваны ў ліпені 1917 г. на руска-германскім фронце са згоды рускіх вайсковых улад, і які ў першай палове 1918 г. дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі (у раёне Рагачоў — Жлобін — Бабруйск — Мінск) супраць савецкіх войскаў — спачатку самастойна, а потым пад кіраўніцтвам германскага камандавання.

Дзеячаў БНР вельмі турбавала тая акалічнасць, што ва ўмовах германскай акупацыі і пры падтрымцы акупацыйнага камандавання (на якую яны самі, між іншым, разлічвалі) на тэрыторыі Беларусі дзейнічае польскае ваеннае фарміраванне, якое ставіла перад сабой мэты і задачы, супярэчныя інтэрасам беларускай эліты і, наперад усяго, ажыццяўленню яе нацыянальна-вызваленчых памкненняў[14].

27 жніўня 1918 г., пасля паражэння на Заходнім фронце, Германія падпісала дадатак да Брэсцкага мірнага дагавору, які прадугледжваў датэрміновую эвакуацыю нямецкіх войскаў з тэрыторыі паміж Дняпром і Бярэзінай. Улічваючы актыўнасць палякаў і бальшавікоў, можна было не сумнявацца, што яны, канкуруючы паміж сабой, паспрабуюць запоўніць той вакуум улады, які ўтварыўся. Сітуацыя няўхільна развівалася ў бок канфлікту.

Газета „Czas" у гэты час пісала: „Навіна, што нямецкія войскі павінны пакінуць усходнія паветы Белай Русі, выклікала сярод мясцовых сялян хваляванне, якое прывяло да крывавых беспарадкаў"[15]. Для пацвярджэння сваіх слоў яна прыводзіць жудасную цытату з „Kurjera Polskiego": „На памежжы Мінскай і Магілёўскай губерняў цёмны натоўп, рэкрутаваны з мясцовых палітызаваных сялян, напаў на фальварак пана Камероўскага, забіў гаспадара і мастака Якубанціса, які гасцяваў там. Затым забойцы адсеклі сваім ахвярам галовы, а скрываўленыя тулавы пасадзілі поруч стала, паставіўшы перад кожным талерку з яго галавой. Нікому (...) не дазвалялі пахаваць мёртвыя целы"[16]. Далей, развіваючы тэму, „Czas" паведамляў: „Оргія нянавісці і знішчэння значна

[13] *Na Białorusi*, „Głos Narodu", 1918, 24 sierpnia, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2b, l.484.

[14] A. Łuckiewicz, *Polska okupacja na Białorusi*, Wilno 1920, s. 2.

[15] *Rzezie na Białorusi*, „Czas", 1918, 20 sierpnia, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2h, l.262.

[16] Tamże.

шырэй, чым даносяць чуткі. Яна пачынае трэсці край. Адзін двор за другім робіцца ахвярай агню. З кожным днём расце лік ахвяр, якія прынялі пакутніцкую смерць ад рук забойцаў (...)”[17].

Газета „Naprzód” паведамляла новыя падрабязнасці аб падзеях, якія адбываліся ў тыя дні: „Як толькі чуткі аб адыходзе немцаў з Белай Русі дайшлі да сялян, тут жа пачаліся забойствы і рабаванні. Сяляне Барысаўскага (Мінская губерня) і Сенненскага (Магілёўская губерня) паветаў напалі на маёнткі Лісічын і Хаміньскіх, разрабавалі ўсё дачыста, пабудовы спалілі, а гаспадароў у Лісічыне і госцяў у колькасці 9 чалавек, якія праводзілі там час, наздзекаваўшыся спачатку над жанчынамі, забілі адным і тым жа спосабам — адсеклі галовы”[18].

Працэс пагаршэння беларуска-польскіх адносін паскорыўся ў першай палове лістапада 1918 г. у сувязі з падзеямі, якія літаральна акрылілі палякаў: рэвалюцыя ў Германіі, падпісанне германскім камандаваннем акту аб капітуляцыі ў Кампьене, перадача Рэгенцкай Радай улады Пілсудскаму і аднаўленне незалежнасці Польшчы.

Мабілізацыя грамадскай думкі Польшчы ў абарону польскага насельніцтва і польскіх інтэрасаў у Беларусі, якая праводзілася ў папярэднія месяцы, прыняла значна больш актыўны характар — павінна была распачацца барацьба за Беларусь з бальшавіцкай Расіяй, у якой інтарэсы саміх беларусаў не браліся ў разлік.

„Kurier Lwowski” ўносіць новую лепту ва ўзбуджэнне ў польскіх масах варожасці да беларусаў: „У Сенненскім і Барысаўскім паветах (...) усе маёнткі разрабаваныя і знішчаныя на працягу двух дзён. Хто з жыхароў змог, збег у Мінск. Тыя, хто не змог уцячы, былі забіты самымі паскуднымі спосабамі. Так, напрыклад, у гаспадароў маёнтка Дудары выразалі скуру з мясам на карку, а рану засыпалі соллю. Параненых і пакалечаных (...) тапілі ў сажалцы, дабівалі нагамі або раздзіралі на кавалкі (...) [Палякі — *А. К.*] звярнуліся за дапамогай да немцаў, але тыя адмовілі. Толькі праз некалькі дзён прыйшлі два эскадрона гусар, якія (...) спалілі дашчэнту 17 вёсак і арыштавалі сялян. За тры дня суды ў Бабрах і Барысаве прысудзілі да смерці звыш 200 сялян”[19].

У антыбеларускай істэрыі, якая нагняталася ў польскай прэсе, патанулі цвярозыя галасы, якія раздаваліся ў ёй годам раней і якія заклікалі пры аналізе падзей на крэсах улічваць, што ва ўнутраных губернях Расіі падобных ліхадзействаў было непараўнальна больш. Так, напрыклад, „Dziennik Miński”, распавядаючы аб самавольных высечках лесу

[17] Tamże.

[18] *Mordy na Białej Rusi*, „Naprzód”, 1918, 21 sierpnia, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2h, l.266.

[19] *W czadzie krwi*, „Kurier Lwowski”, 1918, 3 listopada, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2h, l.272.

беларускімі сялянамі (тэма высечкі лесу пераважае ў большасці ўспамінаў аб рэвалюцыйных падзеях у Беларусі — *А. К.*), выводзіў: „Людзі знішчаюць лес без усякага плану, сярод белага дня, лічачы, што гэта цалкам натуральна. Гэта агульная хвароба. І трэба быць вельмі задаволеным, што тут не адбываецца таго, што ў Цэнтральнай Расіі, (...) дзе гвалты, падпалы, забойствы з'яўляюцца звычайнай справай"[20].

Але палякаў, зараз, мабыць, цалкам не турбавала тое, што адбывалася дзесьці там, у Расіі. Іх цікавіла будучыня крэсаў, дакладней — уласная будучыня на крэсах. Яны пераконвалі сябе, што ў дадзены гістарычны момант менавіта ім, а не камусьці, прыйдзецца ўзяць на сябе адказнасць за лёс Беларусі, і зрабіць усё магчымае, каб не дапусціць яе выпадзення са сферы польскіх нацыянальных і дзяржаўных інтарэсаў[21]. У адпаведнасці з гэтым ідэйным перакананнем строілася практычная дзейнасць польскіх улад.

Рэагуючы на антыпольскія дзеянні беларускага насельніцтва, Рэгенцкая Рада выслала да канцлера Германіі тэлеграму, просячы аб абароне жыцця і маёмасці жыхароў польскай нацыянальнасці, што пражываюць на беларускіх тэрыторыях, якія згодна з дадатковым дагаворам, падпісаным 27 жніўня 1918 г. паміж савецкай Расіяй і Германіяй, павінны быць астаўлены немцамі. „Kurjer Poznański" прыводзіць яе тэкст: „Паводле нашай інфармацыі, польскім землеўладальнікам пагражае небяспека жыцця ад мясцовага рэвалюцыянізаванага насельніцтва. Толькі вельмі энергічныя крокі з боку нямецкіх улад могуць прадухіліць бязмернае няшчасце ў тамтэйшых ваколіцах"[22]. Як паказала далейшае развіццё падзей, немцы не засталіся безуважнымі. Іх карныя акцыі былі своеасаблівым „майстар-класам" для палякаў, якія павінны былі пасля адыходу немцаў „ратаваць" Еўропу ад „бальшавіцкай заразы".

На фоне эвакуацыі нямецкіх войскаў з тэрыторыі Беларусі польскія выданні ўзмацнілі нагнятанне сітуацыі яшчэ больш. Газета „Czas", напрыклад, заяўляла: „Польскасць, якую не здолелі задушыць Навасільцаў, Мураўёў, Коханаў, Клігенберг і іншыя праследавацелі нашага народа, гіне сёння ад рук дзікіх бальшавіцкіх орд. У Лепельскім і Сенненскім паветах, у якіх эвакуацыя [немцаў — *А. К.*] скончылася, (...) палякі ўсіх пластоў знішчаюцца самымі зверскімі спосабамі: ім адразаюць вушы і насы, саджаюць на кол, закопваюць жыўцом, а тых, каму даруюць жыццё, адвозяць у спецыяльна створаныя для гэтых мэт кан-

[20] *Ziemiaństwo a rabunki leśne*, „Dziennik Miński", 1917, 1 listopada, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2h, l.249/2.

[21] *Białoruś w zamian za Poznańskie*, „Głos Narodu", 1918, 16 stycznia, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2f, l.583.

[22] *O obronę Polaków na Białorusi*, „Kurjer Poznański", 1918, 6 października, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2f, l.616.

цэнтрацыйныя лагеры, у якіх няшчасных чакае новая небяспека забойстваў і гвалтаў. Здабытак культурнай працы цэлых стагоддзяў гіне ў полымі агню. Так гінуць палякі, гіне нацыянальная ўласнасць"[23].

„Dziennik Poznański" публікуе зварот прадстаўнікоў польскай крэсовай рады ў Беларусі Л. Лубеньскага і Э. Івашкевіча да Рэгенцкай Рады, якая дажывала свае апошнія дні: „У страшэнных пакутах у розумах і сэрцах нашых нараджаецца пытанне, з якім да цябе, наша Найвышэйшая Нацыянальная Улада — Найдастойнейшая Рэгенцкая Рада, звяртаем надзеі нашы! У гэтую гістарычную хвіліну, якая прынесла польскаму народу задавальненне ўсіх крыўдаў, прычыненых Польшчы трыма яе падзеламі, у момант рэстытуцыі дзяржаўных правоў Рэчы Паспалітай Польскай — Ты адзіная, у сілу гістарычных правоў, упаўнаважаная стаць у абарону крэсаў, якія сталі ахвярай анархіі. Да цябе цягнуцца рукі польскага крэсовага насельніцтва з упэўненасцю, што зробіш усё, што ў тваіх сілах, каб абараніць крэсы ад забойстваў, пажараў і знішчэння. Паколькі мы ўпаўнаважаныя гаварыць ад імя польскага насельніцтва ўсходніх крэсаў, то лічым сваім абавязкам заявіць, што думкі і надзеі нашы ў роўнай меры падзяляюцца шырокімі масамі насельніцтва крэсаў, якія ў згодзе і парадку, у спакойнай і ўпартай працы бачаць асновы прагрэсу, культуры і дабрабыту краю"[24].

Дадзены факт сведчыць аб тым, наколькі трывожнай была атмасфера на крэсах. Польскі этнічны элемент, удзельная вага якога была даволі вялікай, які меў, да таго ж, досыць высокі сацыяльна-эканамічны статут і развіты ўзровень нацыянальнай самасвядомасці, не жадаў сядзець „склаўшы рукі" і чакаць, калі яго становішча яшчэ больш пагоршыцца ў выніку вяртання на „яго крэсы" рускіх, ды і горш таго — рускіх-бальшавікоў. Сітуацыю, калі ўладу прыйшлося б аспрэчваць у беларусаў, польскія крэсовыя палітыкі сур'ёзна разглядаць не жадалі — занадта неверагодным гэта здавалася. Хоць факт існавання беларускага нацыянальнага руху, хай і не такога развітога, напрыклад, як украінскі, не лішні раз нагадваў ім аб недапушчальнасці якіх бы то ні было праяў нерашучасці або талерантнасці ў стаўленні да яго.

Яшчэ ў лютым 1918 г. у Любліне для абароны польскіх інтарэсаў на „крэсах усходніх" была створана такая грамадска-палітычная арганізацыя, як Стража Крэсова (Straż Kresowa, з 21 верасня 1920 г. яе афіцыйная назва — Towarzystwo Straży Kresowej, TSK). Паўстала яна ў сувязі з перадачай германскай ваеннай адміністрацыяй Украіне тэрыторыі Холмшчыны. Той

[23] *Mord i pożoga na Białorusi*, „Czas", 1918, 28 października, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2/2, l.280.

[24] *Odezwa*, „Dziennik Poznański", 1918, 23 października, AAN, plik 100, dział L.B.U. II. 2h, l.282.

факт, што першы статут TSK быў зацверджаны ў Любліне аўстрыйскімі вайсковымі ўладамі, сам па сабе аб многім гаворыць. На самай справе інтарэсы і сфера дзейнасці Стражы Крэсовай былі куды шырэй: „Абарона Холмшчыны і Падляшша ад пагрозлівых наступстваў Брэсцкага трактата, садзейнічанне развіццю польскай культуры і польскіх уплываў на крэсах, а таксама на тэрыторыях, размешчаных на ўсход ад граніц польскай дзяржавы, для цеснага яднання з Польшчай тэрыторый, якія культурна і эканамічна да яе імкнуцца”[25]. Асноўныя тэндэнцыі эвалюцыі Стражы Крэсовай выявіліся ўжо ў 1918 г., і, першым чынам, — яе ператварэнне ў прыладу ўрадавай палітыкі паланізацыі. Улічваючы складанасць гістарычнага моманту і няпростыя адносіны з мясцовым няпольскім насельніцтвам, вельмі прыкметным у дзейнасці гэтай арганізацыі, становіцца ваенна-патрыятычны кампанент — яе стараннямі ствараюцца атрады „самаабароны”, вядзецца актыўная прапагандысцкая праца.

Восенню 1918 г. Літоўскай камісіяй у Варшаве і Польскай народнай радай беларускіх зямель (такія рады ствараліся пры садзейнічанні Стражы Крэсовай — *А. К.*) быў арганізаваны Камітэт абароны крэсаў. Дзейнічаў ён галоўным чынам на тэрыторыі Навагрудчыны[26]. Галоўным вынікам яго працы стала стварэнне Літоўска-Беларускай дывізіі, камандзір якой, ген. Люцыян Жалігоўскі, у кастрычніку 1920 г. па загадзе Пілсудскага інсцэніраваў бунт і захапіў Віленшчыну[27].

Трывожныя асцярогі ў стаўленні да Польшчы і яе крэсовых намераў у канцы 1918 г. сталі выказваць некаторыя беларускія палітыкі і публіцысты. Напрыклад, Канстанцін Езавітаў (дзеяч Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў) у выдадзенай ім у 1919 г. кніжцы „Беларусы і палякі” пісаў: „Ужо з першых дзён Вялікай Расійскай рэвалюцыі, як толькі стала магчыма адкрыта выступаць на мітынгах і сходах, прыгожая шкарлупіна хлуслівых польскіх фраз раскалолася і агаліла чорны „арэшак” іх недвухсэнсоўных намераў. Аратары ўсіх партый і кірункаў аднадушна закрычалі аб „вялікай Польшчы” ў граніцах 1772 г.; аб беспрасветнай цемры беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў; аб неабходнасці для іх стаць пад „штандар” белага арла; аб польскай народнасці і інтарэсах на „крэсах усходніх” (...) і аб далучэнні іх да Польшчы. Прэса і шырокія грамадскія кругі падхапілі гэты шавіністычны лямант”[28].

Польска-савецкая вайна 1919-1920 гг. стала чарговым цяжкім вып-

[25] AAN, Towarzystwo Straży Kresowej (далей: TSK), teka 70 (Komitet Wykonawczy TSK, Informacje o ziemiach Wschodnich), l.75.

[26] AAN, TSK, teka 70, l.77.

[27] *Вакол авантуры Жэлігоўскага*, „Савецкая Беларусь”, 1920, 30 кастрычніка, с. 2; *Вакол авантуры Жэлігоўскага*, „Савецкая Беларусь”, 1920, 31 кастрычніка, с. 1; *Вакол авантуры Жэлігоўскага*, „Савецкая Беларусь”, 1920, 2 лістапада, с. 2.

[28] К. Езовитов, *Белорусы и поляки*, Ковно 1919, с. 17.

рабаваннем для беларускага народа. Яна не толькі пахавала ідэю стварэння незалежнай беларускай дзяржавы, але і канчаткова сапсавала беларуска-польскія адносіны.

Тым не менш, дзеячы БНР і ўсе тыя, для каго ідэя незалежнай Беларусі не была пустым гукам, працягвалі змагацца. Яны спадзяваліся на дапамогу вялікіх дзяржаў, лічачы, што Польшча знаходзіцца ў залежнасці ад іх і выконвае ў іх планах важную стратэгічную ролю стрымлівання бальшавіцкай пагрозы і аказання ціску на савецкую Расію. У той жа час яны выдатна разумелі, што Расія знаходзіцца па-за полем уплыву гэтых дзяржаў, што надавала расійскаму фактару характар непераадольнай сілы. У тых акалічнасцях, якія склаліся, разлік на тое, што еўрапейская грамадская думка не застанецца раўнадушнай, калі атрымаецца данесці да яе інфармацыю аб злачынных дзеяннях польскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі, здаваўся не пазбаўленым цвярозага сэнсу. Пачалася праца па стварэнню негатыўнага вобраза польскага войска, прама процілеглага таму, які ствараўся і папулярызаваўся польскімі ідэолагамі і прапагандыстамі. Як ні дзіўна, вобразатворчыя намаганні „незалежнікаў" і бальшавікоў у дадзеным выпадку цалкам супадалі. Фактычна сумеснымі намаганнямі яны пачалі ствараць вобраз ворага, які адыграў вялікую прапагандысцкую ролю ў справе перацягнення беларусаў на бок варожых польскай дзяржаве сіл.

У выніку папулярызацыі гэтага вобраза стаўленне беларускага насельніцтва да Чырвонай Арміі і Войска Польскага было розным. Яно пагаршалася да таго ж яшчэ і бальшавіцкай партыйнай прапагандай, якая прапаведавала ў беларускіх працоўных масах камуністычныя ідэі, пакуль яшчэ прывабныя для простага чалавека ідэі выклікалі пазітыўны водгук у яго душы. У іх цяжка, практычна немагчыма было распазнаць імперскія амбіцыі бальшавікоў. У той жа час польская палітычная прапаганда аперыравала паняццямі, далёкімі да разумення беларускага абывацеля. Так, напрыклад, 22 красавіка 1919 г., ужо пасля таго, як польскае войска стала захопліваць беларускія тэрыторыі, Юзаф Пілсудскі апублікаваў зварот да насельніцтва былога Вялікага Княства Літоўскага і заклікаў усе народы, якія жылі ў ім, да федэратыўнага аб'яднання з Польшчай. І хоць гэты праект арганічна выцякаў з тэорыі аб „літоўскім гістарычным рамантызме" (агульнай барацьбе палякаў, літоўцаў і беларусаў супраць царскага, расійскага прыгнёту), які з'яўляўся часткай польскай нацыянальнай міфалогіі, у Літве і ў Беларусі ён запалу не выклікаў. На практыцы паўстала сітуацыя, далёкая ад польскіх рамантычных ідэалаў. У Віленскай дэкларацыі, прынятай польскім сеймам 2 мая 1919 г., было ясна выяўлена стаўленне Польшчы да беларускіх і літоўскіх зямель, як да неаддзельнай часткі Польшчы.

Калі ў канцы 1918 г. польскі нацыянальны элемент на крэсах толькі рыхтаваўся да барацьбы за свае пазіцыі, то падчас польска-савецкай

вайны, якая развярнулася ў пачатку 1919 г., яго становішча робіцца пераважным. У новых рэаліях палякі выявілі сябе ў цалкам новым святле — дыстанцыяваліся ад беларусаў і супрацьпаставілі іх не вельмі рэалістычнаму разуменню таго, што адбывалася, свае ўсвядомленыя нацыянальныя інтарэсы і развітыя амбіцыі. Настолькі развітыя, што беларусы даволі хутка змаглі скласці адэкватнае паводзінам польскіх вайскоўцаў негатыўнае меркаванне аб іх, роўна як і аб усім польскім акупацыйным рэжыме ў Беларусі, пра што сведчыць брашура А. Луцкевіча „Польская акупацыя Беларусі”[29]. Абапіраючыся на шматлікія факты, яе аўтар даказвае, што дзеянні польскіх жаўнераў, жандараў і паліцыянтаў на беларускіх землях выклікалі шырокую непрыязнасць мясцовага няпольскага насельніцтва, адштурхваючы яго ад Польшчы[30].

Тое, што сімпатыі беларускага насельніцтва былі відавочна не на іх баку, разумелі і самі палякі. Гэтае разуменне ў поўнай меры адлюстроўваюць рапарты павятовых падраздзяленняў Стражы Крэсовай. Так, напрыклад, у рапартах Слуцкага павета за 1920 г. маюцца наступныя канстатаванні: „Жандармерыя і асабліва вайсковыя падраздзяленні сваімі нетактоўнымі паводзінамі (як быццам яны ў чужой, варожай краіне) паглыбляюць непрыязнасць і нянавісць да нас (...). Акрамя таго, на настрой насельніцтва і яго стаўленне да нас уплываюць сталыя рэквізіцыі і задавальненне за яго рахунак велізарнага запатрабавання войска ў конным транспарце[31] (...). Праваслаўнае насельніцтва, асабліва моладзь, з’яўляецца нашым адкрытым ворагам (...). Калі б наш польскі салдат паводзіў сябе годна, яно не мела б аргументаў для скаргаў і нараканняў на прыгнятанні ўлад і войска. На фоне рэквізіцый жывёлы падпаручнікамі Язвіньскім і Баркоўскім, інтэндантамі познаньскіх войскаў у Слуцку (...) адбываюцца страшныя рэчы — проста (...) бандытызм. Гэтыя „людзі” выходзяць за рамкі найэлементарнейшых уяўленняў аб прыстойнасці (...). Сяляне церпяць каласальныя страты. За скаргі іх б’юць, а яны трываюць і лаюцца”[32]. Брутальныя настроі радавога і малодшага камандуючага саставу польскага войска падзялялі і яго вышэйшыя афіцэры. Так, напрыклад, у адказ на просьбу У. Іваноўскага не паліць беларускія сёлы ген. Станіслаў Шаптыцкі адказаў: „Я спалю ўсю вашу Беларусь, калі гэта будзе патрэбна”[33].

У рапарце Барысаўскага павятовага аддзялення Стражы Крэсовай за красавік 1920 г. чытаем: „Настрой рускіх (беларусаў — *А. К.*) і яўрэяў пакідае жадаць лепшага. То там, то там можна чуць аб антыпольскіх

[29] A. Łuckiewicz, *Polska okupacja na Białorusi*, s. 19.
[30] Tamże, s. 9-11.
[31] AAN, TSK, teka 299 (raporty pow. słuckiego, 1920 r.), l.15.
[32] AAN, TSK, teka 299 (raporty pow. słuckiego, 1920 r.), l.27.
[33] A. Łuckiewicz, *Polska okupacja na Białorusi*, s. 17.

выступленнях варожа настроеных асоб і нават цэлых груп насельніцтва ў асобных мясцовасцях. Нядаўна ў Аколаве (Прусевіцкая гміна), падчас малітвы ў касцёле, вялікая група людзей выйшла з царквы і ўстроіла перад касцёлам антыпольскую дэманстрацыю, спяваючы бальшавіцкія песні і страляючы з рэвальвераў (...). 17 галоўных вінаватых было арыштавана"[34]. Далей складальнік рапарта амаль штодзённа канстатуе: „Некаторыя сяляне варожа настроены да нашага войска. Сустракаў нават такіх, якія адкрыта кажуць, што лепш было б, каб вярнуліся бальшавікі"[35]. І далей: „Стаўленне войска і ўрада да Стражы Крэсовай надзвычай добразычлівае, адзіна толькі мясцовае насельніцтва па нацыянальнай прычыне не аказвае нам той дапамогі, якую мы ад яго павінны атрымаць"[36].

Аб тым, наколькі бяспраўным было беларускае насельніцтва, кажа той факт, што нават крэсовым палякам прыходзілася шукаць абароны ў польскіх улад і грамадска-палітычных арганізацый тыпу Стражы Крэсовай. Так, напрыклад, 13 лістапада 1919 г. у сяло Бутрымовічы (Параф'янаўская гміна, Вілейскі павет, Віленская губерня) прыехалі тры ўланы 7-га палка і запатрабавалі падаць ім на працягу двух гадзін 50 пудоў аўса і 100 пудоў сена, не прад'явіўшы на то ніякіх зразумелых дакументаў ад каменданта пляца 8-й дывізіі ў Параф'янаве. У выніку адмовы вяскоўцаў падаць фураж паўстала бойка з уланамі. Справа дайшла да стральбы. Разагнаўшы прыкладамі і стрэламі людзей, уланы пакінулі сяло, прыстрашыўшы вярнуцца на наступны дзень і спаліць яго. 14 лістапада ў Бутрымовічы прыехалі 60 уланаў на чале з паручнікам і падпаручнікам. Акружыўшы сяло і сагнаўшы мужчын да адной хаты, уланы пачалі павальнае рабаванне, (...) падчас якога было збіта шмат людзей і падпалена хата. Пакідаючы сяло, салдаты наклалі на яго кантрыбуцыю — 100 пудоў аўса і 200 пудоў сена, якія загадалі вяскоўцам самім даставіць у Бутрымовічы. Шэсць чалавек арыштавалі і збілі да крыві, паабяцаўшы, што дваіх з іх расстраляюць[37].

15 лістапада ў сяло прыехалі прадстаўнікі Стражы Крэсовай па справе арганізацыі школы і ўбачылі „вялікую прыгнечанасць насельніцтва, жанчын, якія плачуць, і спаленую хату". К. Ражнеўскі, памочнік інструктара Стражы Крэсовай Вілейскага павета адзначыў: „Сяло выглядала фактычна як пасля пагрому, дзверы ў свірнах зламаныя, замкі ў дзвярах, камодах, валізах таксама зламаныя, хатняе начынне, пасце-

[34] AAN, TSK, teka 267 (raporty pow. borysowskiego 1920 r.), l.9.

[35] Tamże, l.11.

[36] Tamże.

[37] Podanie do Rządu Polskiego mieszkańców wsi Butramiejowszczyzna, gminy parafjanowskiej, pow. wilejskiego, gub. wileńskiej, AAN, TSK, teka 378 (Nadużycia wojskowe), l.1-3.

ля (…) усё перавернута, вокны пабітыя, аб абразы, якія віселі на сценах, тушылі недакуркі. Сяло (...) вельмі расчараванае ў Польшчы і польскіх салдатах, тым больш што жыхары гэтага сяла — палякі і каталікі, чакалі прыходу польскіх войскаў як збавення ад бальшавіцкіх мабілізацый. (...) Браты Вайцяшонкі былі ў войску Доўбар-Мусніцкага (Пётр і Юльян — двое з арыштаваных шасці чалавек), а адзін з іх — служыў у польскай адміністрацыі ў Параф'янаве"[38].

З дакументаў высвятляецца, што і палявая жандармерыя, абавязаная абараняць мясцовае насельніцтва, у тым ліку і ад марадзёрства з боку войска, паводзіць сябе ані не лепш: „Палявая жандармерыя дапускае розныя службовыя злоўжыванні (...). [Жандары — *А. К.*] бяруць хабары, прадаюць рэквізаваную зброю, распаўсюджваюць замяшанне ў розумах людзей праз выданне ўсякага роду распараджэнняў. Бальшавіцкая агітацыя жадае прадставіць польскае войска як белую гвардыю, а польскія ўлады як панскія ўлады, і нельга не заўважыць, што жандармерыя вельмі спрыяе ворагам польскай дзяржавы, калі аказвае паслугі зямянам (іх адміністратарам), вельмі часта дапамагаючы ім пры ўрэгуляванні канфліктаў з насельніцтвам. Гэтае насельніцтва пачынае цалкам губляць давер да польскіх улад"[39].

Рапарты Пружанскага павятовага аддзялення Стражы Крэсовай дапаўняюць гэтую маркотную карціну, прыводзячы новыя прыклады. Адзін з іх, дарэчы, распавядае аб абуральным эпізодзе з удзелам двух прадстаўнікоў афіцыйнай улады — начальніка 1-га раёна ў Белавежы — пана Скаржыньскага і вахмістра жандармерыі Чэрвца. У стане моцнага ап'янення яны з'явіліся ў вёску Крыніца і звярнуліся да групы сабраных імі сялян з пытаннем, хто з іх мае большую ўладу. Калі хтосьці з прысутных адказваў — „пан начальнік", вахмістар яго біў. На адказ, што старэйшым з'яўляецца пан вахмістар, біў начальнік. Па заканчэнні допыту, пакінуўшы ў супакоі ашаломленых сялян, паны начальнікі сустрэлі на сваім шляху яўрэя і вырашылі, што яго трэба ўтапіць. З гэтай мэтай яны панеслі яўрэя да калодзежа. Затым, аднак, трохі апамятаўшыся, абмежаваліся тым, што адабралі ў яго чаравікі, якія віселі на рамяні[40].

Тое, што выкладзена ў рапартах павятовых падраздзяленняў Стражы Крэсовай цалкам адпавядае карціне ўчыненых польскімі вайскоўцамі і жандарамі злачынстваў, якую малююць беларускія публіцысты, у тым ліку і аўтар выдадзенай у 1921 г. у Беластоку брашуры „Наша крыўда". Аналізуючы апошні досвед беларуска-польскіх адносін

[38] Podanie do Rządu Polskiego mieszkańców wsi Butramiejowszczyzna, gminy parafjanowskiej, pow. wilejskiego, gub. wileńskiej, l.5.

[39] Tamże, l.64.

[40] AAN, TSK, teka 277 (Raporty pow. prużańskiego 1920 r.), l.5.

(з 1918 г. — выключна негатыўны), ён з болем заявіў: „З боку Польшчы ідзе адзін зман, адна здрада, адно ліхадзейства. Яшчэ ніхто і нікому ў свеце не зрабіў гэтулькі няшчасцяў і крыўд, колькі прычыніла беларускаму народу Польшча. За ўвесь час нашага суседскага і сумеснага жыцця мы бачылі і бачым з боку Польшчы адзін паклёп на наш народ, адно здзекаванне, адны катаванні”[41]. Аўтар другой брашуры — „Расійска-польскі баль і беларускае пахмелле”, выдадзенай у тым жа 1921 годзе ў Пінску, дадае: „Польскія палітыкі, аслепленыя шалёным шавінізмам, стараюцца помсціць усяму, што ляжыць на ўсход ад Польшчы, і валяць у адну кучу з маскоўцамі і беларусаў. У злосці палякі і беларусаў лічаць „маскалямі”. Не маючы сілы помсціць сапраўдным расійцам, яны здзекваюцца над часова безабаронным беларускім народам”[42].

Такім чынам, 1918 г. стаў сумнай вехай у беларуска-польскіх адносінах. За гэты год адбылося тое, чаго не маглі дамагчыся расійскія ўлады за папярэдняе паўтара стагоддзя — гэтыя адносіны з добрасуседскіх трансфарміраваліся ў непрыязныя і нават варожыя. Галоўную віну ва ўзніклым канфлікце належыць ускласці на Польшчу, якая ў новых гістарычных умовах паспрабавала рэанімаваць Рэч Паспалітую. Але калі Першая Рэч Паспалітая была добраахвотным саюзам народаў, то ў Другую палякі сталі зганяць гэтыя народы сілай. Беларускія „незалежнікі” не змаглі своечасова распазнаць праўдзівыя намеры Польшчы і спадзяваліся, што адроджаная польская дзяржава ўступіць на палітычную арэну як саюзнік і абаронца беларусаў. Але, як выявілася, палякі высакароднасцю сябе абцяжарваць не сталі і пакваліліся на „лёгкую здабычу”. Аляксандр Цвікевіч пісаў: „Польшча была для нас прыкладам — „распятая на крыжы” — была старэйшым братам у цяжкай барацьбе, надавала сіл і веры. Мы мелі надзею, што разам з яе воляй прыйдзе таксама воля і для нашага народа. І што выйшла? Прыйшла воля, прыйшла рэвалюцыя, адрадзілася Польшча і (...) пачала гуляць па целу Беларусі польская нагайка (...). Горш усяго тое, што здарылася гэта так нечакана”[43]. Пакуль жа беларускія палітыкі вызначаліся з меркаваннем і шукалі больш-менш карэктную форму яго выказвання, экстрэмісцкія сілы ў Беларусі пачалі дзейнічаць. І хаця ў гэтай барацьбы была, вядома ж, свая сацыяльная падаплёка, польская прапаганда зрабіла ўсё, каб прадставіць яе ў значна больш выгаднай правячым колам Польшчы і зразумелай польскай грамадскасці версіі нацыянальнага супрацьстаяння.

[41] В. Лесавік, *Наша крыўда*, Беласток 1921, с. 4-5.

[42] А. Бяроза, *Расійска-польскі баль і беларускае пахмелле: (Куды ідзе беларускі шлях)*, Пінск 1921, с. 12-13.

[43] P. Wróbel, *Kształtowanie się białoruskiej świadomości narodowej i Polska*, Warszawa 1990, s. 61.

Далей, ужо ў абставінах польска-савецкай вайны 1919-1920 гг., польскае акупацыйнае войска ў Беларусі вяло сябе як на ахопленай мяцяжом польскай тэрыторыі, дзе польскі нацыянальны элемент пакутуе ад усялякіх злачынстваў і здзекаў, якія чыніць яму мясцовае насельніцтва, атручанае расійскай бальшавіцкай прапагандай, пазбаўленае элементарных уяўленняў аб маральнасці і правапарадку. У выніку яно паўстала перад гэтым насельніцтвам у негатыўным вобразе варожага войска, абаронцы інтарэсаў польскай нацыянальнай меншасці і, першым чынам, інтарэсаў польскіх абшарнікаў. Учыненыя ім гвалты — пакаранні смерцю, збіванні, арышты, знішчэнне маёмасці, рэквізіцыі і адкрытае марадзёрства сталі псіхалагічнай асновай для фарміравання вобраза ворага, які потым актыўна выкарыстоўваўся беларускай савецкай прапагандай.

Тое, што ў верасні 1939 г. беларуская грамадская думка не апынулася на баку польскага народа, які мужна вёў справядлівую барацьбу з агрэсарам, сведчыць аб тым, што дадзены вобраз з'явіўся вельмі дзейсным сродкам прапагандысцкага ўздзеяння на масы, сапраўднай ідэалагічнай зброяй у руках бальшавіцкага ўрада.


**Summary**

**Belarusian-Polish national conflict In 1918-1920 as a factor of development of a negative element of the Belarusian stereotype about Poland and Poles**

The article analyzes changes which occurred in Belarusians' attitude towards Poland and Poles on the eve and during the Polish-Soviet War in 1919-1920. The author proves that the beginning of the process of changes was initiated by the Poles themselves in 1918 during the evacuation of German occupational forces when they started to take over power in the "Eastern Borderland". The Polish-Soviet War in 1919-1920 not only buried the concept of creating an independent Belarusian state but also considerably deteriorated Polish-Belarusian relations. During this war the Polish army was perceived by Belarusians in a negative way as an enemy army, defenders of the Polish national minority and, most of all, of Polish landowners' interests. The harm inflicted by the army was a base for developing a negative image of the enemy, which was spreading rapidly thanks to the activities of the Polish occupational authorities and Polish social-political organizations such as Borderland Guards. An apparent negative factor significantly distinguished this image from the stereotype of Poland and Poles which had developed in the previous period. It became a very persuasive means of the propaganda impact on the masses, their education in the spirit of hatred for the Polish State and everything it implied.



**Streszczenie**

**Białorusko-polski konflikt narodowościowy w latach 1918-1920 jako czynnik rozwoju negatywnego składnika białoruskiego stereotypu o Polsce i Polakach**

W artykule analizowane są zmiany, które zaszły w stosunku Białorusinów do Polski i Polaków w przededniu i w czasie wojny polsko-sowieckiej w latach 1919-1920. Autor udowadnia, że początek procesowi zmian dali sami Polacy w 1918 r. podczas ewakuacji niemieckich wojsk okupacyjnych, gdy zaczęli przejmować władzę na „kresach wschodnich".

Wojna polsko-sowiecka w latach 1919-1920 nie tylko pogrzebała ideę stworzenia niezależnego państwa białoruskiego, ale również w mocnym stopniu zepsuła stosunki polsko-białoruskie. Podczas tej wojny wojsko polskie ukazało się Białorusinom w negatywnym świetle jako wrogie wojsko, obrońcy interesów polskiej mniejszości narodowej i w pierwszym rzędzie interesów polskich obszarników. Wyrządzone przez wojsko krzywdy legły u podstaw kształtowania się negatywnego obrazu wroga, który szybko rozpowszechniał się dzięki działaniom polskich władz okupacyjnych oraz polskich organizacji społeczno-politycznych typu Straży Kresowej. Wyraźny czynnik negatywny w istotny sposób odróżniał ten obraz od stereotypu Polski i Polaków, który ukształtował się w poprzednim okresie. Stał się on bardzo nośnym środkiem propagandowego oddziaływania na masy, wychowania ich w duchu nienawiści do państwa polskiego i wszystkiego, co się z nim kojarzyło.

**Andrej Krotaú —** kandydat nauk, pracuje na Wydziale Historycznym Państwowego Uniwersytetu im. Franciszka Skaryny w Homlu, specjalizuje się w historii politycznej XX wieku.